# Белорусская НИВА

ГАЗЕТА РАБОТНИКОВ АГРОПРОМЫШЛЕННОГО КОМПЛЕКСА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

№ 99 (15383)

Суббота, 4 июня 1994 г.

Цена в розницу 70 руб.

Основана в январе 1921 года


# ПАМЕРЦІ ВЁСЦЫ І КУЛЬТУРЫ ДЗЯРЖАВА НЕ ДАСЦЬ,—

## ЗАПЭЎНІЎ НА СУСТРЭЧЫ З ПРАЦАЎНІКАМІ АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА "НОВАЕ ЖЫЦЦЁ" І МЯСЦОВАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯЙ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ

Прачытаўшы прамову, якую мы сёння друкуем, кожны зробіць для сябе вывады сам. Мне ж у першую чаргу хацелася звярнуць увагу на адносіны кіраўніка беларускага ўраду да нацыянальнага адраджэння нашай дзяржавы. У мяне таксама ёсць свой пункт погляду на эканамічнае і грашовае аб'яднанне з Расіяй, аб якое чэшуць языкі нават тыя, хто ўвогуле нічога не разумее ні ў палітыцы, ні ў эканоміцы, не кажучы ўжо пра еднасць славянскіх душ. Але ж смешна слухаць, як "Кебіч здрадзіў, прадаў, аддаў" і гэтак далей. Скажыце, шаноўныя, калі вы ў апошні раз пачулі па радыё ці прачыталі ў газетах пра значныя надзеі пасля белавежскага разводу ў культурным жыцці Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі? Не памятаеце? Вось і я не памятаю. А скажу пры гэтым, што ў названых краінах ужо не дзейнічаюць кінастудыі, распаліся энцыклапедычныя выдавецтвы. Рэдкім госцем сталі ў дамах дзіцячыя кніжкі. Толькі 26 чалавек засталося ў штаце расійскай энцыклапедыі. Так, нам таксама цяжка, асабліва ў эканоміцы. Лічы, цяжэй за іншых. Але сваю культуру мы ўбок не адкінулі і ніколі не адкінем. Бо сённяшні ўрад добра разумее, што значаць для народа яго гісторыя, яго адукацыя, яго веды. Разумее і ўсяляк спрыяе таму, каб мы не апынуліся ў яме бяспамяцтва і невуцтва. Не 26, а 195 чалавек начале з галоўным рэдактарам Барысам Сачанкам робяць сёння новую беларускую энцыклапедыю, якая стане цікавейшым і паўнейшым нашым падручнікам жыцця. Мы не страляем ні на вуліцах, ні ў мінулае, каб не знішчыць будучыню. Яна, гэтая будучыня — не ў замежных звярыных кінафільмах, а ў сваіх, айчынных, якія, нягледзячы ні на што, у рэспубліцы здымаюцца. Так, мала. Усяго тры замест былых пятнаццаці ў год. Але ж здымаюцца! Калі б не дапамога ўрада — не было б і гэтых. З увагай прынята на сустрэчы і прапанова нашага вядомага артыста Уладзіміра Гасцюхіна наладзіць кінатэатр айчыннага фільма. Спачатку дарагі і стратны. Але з часам людзі пачнуць хадзіць сюды ўсё часцей і часцей. Пачнуць, бо не тая ў нас душа. Яна не амерыканская, не англіцкая і не нямецкая.

Не было б без клопату дзяржавы і зладжанай, накіраванай працы Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў, якую ўзначальвае ўсім вядомы Мікалай Яроменка. Ен, дарэчы, давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты Вячаслава Кебіча. Па словах Мікалая Мікалаевіча, разам з урадам, Міністэрствам культуры і друку канфедэрацыя распрацоўвае сёння вялікую праграму духоўнасці нацыі. Не маем мы права, як зазначыла дырэктар адной з нясвіжскіх школ Ніна Чаромухіна, засяляць нашыя гарады і вёскі лайдакамі і злачынцамі. Як было не прыслухацца прэм'еру да яе закліка ўключыць у праграму кандыдата ў дэпутаты пытанні школы і выхавання моладзі?! І прэм'ер пацвердзіў: ні грошай, ні душы шкадаваць на вырашэнне балючых праблем нельга.

Белавежскі развод не адняў у нас ні працаздольнасці, ні шчырасці, ні добразычлівасці, ні сумлення. І сустрэча ў "Новым жыцці" гэта яшчэ раз яскрава падкрэсліла. Не буду пералічваць усе беды, што назваў старшыня гаспадаркі Міхаіл Саленік: мы неадназова пра іх у газеце расказвалі. Адзначу толькі, што сёння дзяржава аплочвае ўсяго палову таго, што вёскай затрачваецца. У мінулым годзе "Новаму жыццю" недадалі за прадукцыю 4,7 мільёна рублёў. З улікам інфляцыі гэта 11,5 мільёна. Дадайце сюды яшчэ больш 3 мільёнаў за першы квартал года бягучага... За літр бензіну гаспадарка выкладвае чатыры тысячы, а малако каштуе 680 рублёў. Дык дзе ж той парытэт у адносінах ды цэнах? — справядліва пытаў Міхаіл Саленік.

І усё ж, тэмпаў мясцовыя працаўнікі не здалі. Сабралі па 47,3 цэнтнера зерня, больш двухсот — бульбы, звыш трохсот цэнтнераў буракоў. На 100 гектараў сельгасугоддзяў атрымана каля 220 цэнтнераў мяса і амаль 750 цэнтнераў малака. Мясцовы каўбасны цэх, такім чынам, не прастойваў. А ў высокай якасці яго вырабаў удзельнікі сустрэчы пераканаліся самі. Нехта вельмі ёмка пажартаваў, што справу тут робяць не спадары (я не супраць гэтага слова), а гаспадары — не "абразанцы", а сапраўдныя паўнацэнныя майстры. Трэба было чуць, з якім запалам, з якой любоўю і павагай гаварыла пра іх народная артыстка Беларусі Лілія Давідовіч! Пашанцавала не толькі пачуць пра мясцовых майстроў, але і разам з усімі пабачыць зробленае іх залатымі рукамі, розумам і талентам. Усе цуды, як і беды, не пералічыш. Але пра адно ніяк змаўчаць не магу. Гэта дзіцячы садзік. Не, не садзік. Гэта — камбінат па дагляду і выхаванню малых вяскоўцаў. Чаго тут толькі няма! І гістарычная сялянская хатка з усімі яе старажытнымі рэчамі, і басейн, і квітнеючы луг, і камп'ютэрны клас... Здзіўленню гасцей не было канца. Нешта падобнае я бачыў толькі ў калгасе, якім кіруе Уладзімір Бядуля. Дарэчы, Саленік шмат чым нагадвае вядомага старшыню. Тым жа, напрыклад, жаданнем быць неабходным людзям, пошукам выйсця з самых складаных абставін, верай у лепшае жыццё вёскі. Цяжка сёння. Вельмі цяжка. А ён, ні на што не гледзячы, працягвае будаваць дамы. Без дапамогі дзяржавы і тут не абыйсціся. І прэм'еру прыйшлося, як кажуць, папацець, адказваючы на пастаўленыя старшынёй і іншымі выступаючымі пытанні. Але даўно заўважаю за Кебічам — ён, па-першае, ніколі не губляецца, а, па-другое, гаворыць практычна і даходліва. І словы свае пры гэтым стрымлівае. Вось і на сустрэчы прэм'ер паабяцаў пакінуць на вёсцы не 20, а ўсяго два налогі — на зямлю і маёмасць, паставіць пад кантроль усіх манапалістаў, каб панізіць цэны на прамысловую прадукцыю, прыняць іншыя меры, каб вёска не памерла. А ў тым, што яна будзе жыць, не даюць сумнявацца такія працаўнікі, як Аліна Сяргееўна Карачун, якая ад імя ўсіх сваіх землякоў выказала падтрымку Вячаславу Кебічу і пажадала яму поспехаў у цяжкай прэзідэнцкай гонцы. "Пакуль вы не прыязджалі да нас — ішоў дождж. А як прыехалі — дык увесь дзень сонца", — закончыла сваё выступленне на сустрэчы маленькая сціплая жанчынка і з надзеяй агледзела залу...

**Уладзімір БАРЫСЕНКА,**
**спецыяльны карэспандэнт "Белорусской нивы".**



*НА ЗДЫМКУ: Вячаслаў КЕБІЧ з жыхарамі Несвіжу.*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА. Белінформ.**

## Постановление Союза аграрников Беларуси

# О работе Совета Союза аграрников Беларуси по поддержке кандидатуры Александра Иосифовича Дубко на пост Президента Республики Беларусь

Заслушав информацию заместителя председателя Совета Союза аграрников Беларуси А.А. Чернявского о регистрации Центральной комиссией по выборам президента Республики Беларусь кандидатом в Президенты Александра Иосифовича Дубко, Совет Союза аграрников Беларуси ПОСТАНОВЛЯЕТ:

1. Развернуть пропагандистскую работу среди избирателей по избранию Александра Иосифовича Дубко на пост Президента Республики Беларусь.

В этих целях рекомендовать областным и районным, первичным организациям Союза аграрников Беларуси, руководителям предприятий и организаций агропромышленного комплекса провести собрания в трудовых коллективах, в цехах, бригадах, на фермах и участках по поддержанию кандидатуры Дубко Александра Иосифовича.

2. Обратить особое внимание на организацию проведения встреч с кандидатом в президенты и его доверенными лицами в городах и районах, в коллективах предприятий и организаций, колхозах и совхозах. Оперативно анализировать ход предвыборной кампании и, при необходимости, вносить изменения в ее тактику.

3. Использовать в полной мере возможности газеты "Белорусская нива" для успешного проведения предвыборной кампании. Рекомендовать областным организациям Союза аграрников установить тесные контакты с областными и районными газетами, местным телевидением и радио с тем, чтобы предвыборная программа А.И. Дубко нашла широкое освещение и обсуждение на местах.

4. Выпустить листовки с биографией кандидата и его предвыборной платформой и довести их до избирателей через группы поддержки, доверенных лиц.

* * *

Учитывая, что Союз аграрников Беларуси существует на членские взносы, а в последнее время из-за допущенной задолженности по их уплате финансовое состояние нашей общественной организации оказалось крайне тяжелым, в соответствии с Уставом Союза просить руководителей предприятий и организаций агропромышленного комплекса перечислить Союзу аграрников на счет 700506 в АО Белагропромбанка г. Минска не менее чем по 2 млн. рублей.

**Заместитель председателя Совета Союза аграрников Беларуси А. ЧЕРНЯВСКИЙ.**

**Ответственный секретарь Г. ДЕГТЯРЕВ.**

## Постановление Совета колхозов Республики Беларусь

# О работе Совета колхозов Республики Беларусь по поддержке кандидатуры Александра Иосифовича Дубко на пост Президента Республики Беларусь

Комиссия по выборам Президента Республики Беларусь зарегистрировала кандидатом в президенты Александра Иосифовича Дубко. Союз аграрников Беларуси принял постановление о развертывании пропагандистской работы среди избирателей по избраний Александра Иосифовича Дубко на пост Президента Республики Беларусь. Рекомендовано областным, районным и первичным организациям Союза аграрников Беларуси, руководителям предприятий и организация агропромышленного комплекса провести собрания в трудовых коллективах по поддержанию кандидатуры Дубко Александра Иосифовича. Выпустить листовки с биографией кандидата и его предвыборной платформой. Принято обращение к избирателям Беларуси.

Для того, чтобы предвыборная программа А.И. Дубко нашла широкое освещение и обсуждение на местах, рекомендовано установить более тесные связи с областными и районными газетами, местным телевидением и радио.

Совет колхозов Республики Беларусь ПОСТАНОВЛЯЕТ:

1. Рекомендовать советам колхозов областей и районов, правлениям колхозов провести в хозяйствах собрания колхозников, собрания в производственных подразделениях по поддержанию кандидатуры Дубко Александра Иосифовича. На собраниях обсудить также итоги весенне-посевной кампании, вопросы ухода за посевами и заготовки кормов.

2. Обратить особое внимание на организацию проведения встреч с кандидатом в президенты и его доверенными лицами в районных центрах, в колхозах и на других предприятиях АПК.

* * *

Учитывая, что Совет колхозов Республики Беларусь существует на членские взносы, в последнее время из-за допущенной задолженности по их уплате финансовое положение нашей общественной организации оказалось крайне тяжелым. Поэтому в соответствии с положением о Совете колхозов просить правления колхозов перечислить не менее чем по 2 млн. рублей на счет 409302 в АО Белагропромбанка г. Минска.

**Заместитель председателя Совета колхозов Республики Беларусь А. ЧЕРНЯВСКИЙ.**

**Ответственный секретарь Г. ДЕГТЯРЕВ.**

# РАЗАМ МЫ БУДУЕМ НАШ УТУЛЬНЫ ДОМ

## *Выступленне В. Ф. КЕБІЧА на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй Рэспублікі Беларусь і прадстаўнікамі Нясвіжскага раёна*

Шаноўныя сябры!

Паважаныя жыхары Нясвіжчыны!

У нашай супольнай сустрэчы ёсць глыбінны сэнс. Мы сабраліся разам: паэты і мастакі, хлебаробы і палітыкі. Бо менавіта на зямлі, ад дароў яе, палітых потам аратага, пачынаецца жыццё. І ад характва зямлі, ад прыгажосці душы працавітага селяніна нараджаецца песня.

Так склалася гісторыя нашага краю, што адвеку і да сённяшніх дзён усё, што дапамагло нам людзьмі звацца, прыйшло з вёскі, прыйшло ад зямлі. Волаты нашай навукі і культуры, ваяры і таленавітыя палітыкі нарадзіліся тут. Дзе ралля і жаўрук у небе.

Таму мы будзем дбаць пра сяло, пра яго людзей, пра яго клапатліўцаў штодзённа. Будзе жыць і квітнець сяло, тады будуць жыць і квітнець і горад, і навука, і культура. Тут першапачатковая крыніца нашага дабрабыту і нашай духоўнасці.

Спадзяюся, вы ўспрымаеце нашу сённяшнюю сустрэчу як працяг памятнага для ўсіх нас, асабліва для мяне, дня, які мы правялі разам з вамі ў Міры, у снежні 1992 года. Я абяцаў вам, што мы і надалей будзем сустракацца, каб разам, сумесна падлічыць, што зроблена, што яшчэ трэба зрабіць на карысць нашай нацыянальнай культуры. Памятаеце, пэўна, — на той сустрэчы мы падкрэслівалі, што нацыянальнае ў свядомасці не можа скласціся ў выніку толькі добрых пажаданняў. Калі мы — нацыя, то ў нас абавязкова павінны быць свае нацыянальныя святыні. І таму, нягледзячы на складанейшае эканамічнае становішча, абапіраючыся на палітычную раўнавагу ў нашым грамадстве, мы крок за крокам набліжаемся да таго, што мы называем нацыянальнай свядомасцю, да разумення свайго месца ў сусветнай гісторыі і наогул у свеце.

Невыпадкова чарговая наша сустрэча праходзіць у Нясвіжы і Нясвіжчыне — у мясцінах, якія авеяны старажытнымі легендамі, у горадзе, які захаваў мноства архітэктурных помнікаў, палац магутнага беларускага магнацкага роду Радзівілаў, гістарычны культурны ландшафт. У шэрагу старажытных гарадоў, такіх, як Навагрудак, Полацк, Тураў, Гродна і іншых, Нясвіж займае асобнае месца. Гэтаму, канешне ж, спрыяла і геаграфічнае месцазнаходжанне на шляху Усход — Захад, практычна ў цэнтры Еўропы, стратэгічнае становішча і эканоміка, якую ўдала вялі Радзівілы амаль 300 год, развіваючы рамёствы, ствараючы велізарную колькасць розных мануфактур — канкурыруючых на роўных з лепшымі вытворцамі Заходняй Еўропы. Усё гэта надало зямлі Нясвіжчыны сусветную славу, заклала генетычную цягу людзей да лепшай, а галоўнае, творчай працы. Таму, мабыць, і сёння Нясвіжчына адметна сваімі дасягненнямі ў гаспадарцы, культуры.

Думаю, што іменна культуры ў Нясвіжы мы павінны надаць новы магутны штуршок. Да гэтага нас завуць галасы з далёкай мінуўшчыны, з XVIII стагоддзя, калі тут у Палацы і горадзе дзейнічалі оперная, балетная і драматычная трупы, сімфанічны аркестр, нясвіжскі замак быў запоўнены арыгінальнымі карцінамі і скульптурамі, музейнымі, бібліятэчнымі і архіўнымі зборамі. Немагчыма не ўспомніць, што менавіта тут была выдадзена першая на тэрыторыі Беларусі кніжка "Катэхізіс" Сымона Буднага, у друкарні, будынак якой захаваўся да нашага часу. Тут жылі і бывалі Я. Колас, К. Чорны, У. Сыракомля, К. Рылееў.

Прабачце за падрабязны пераказ гісторыі Нясвіжа, але, як мы і дамаўляліся ў Мірскім замку, урад увесь час трымаў пад пільнай увагай усё тое, што робіцца па адраджэнню нацыянальнай спадчыны. І не выпадкова ў ліпені мінулага года была прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб мерах па адраджэнню гісторыка-культурнай спадчыны і развіццю г. Нясвіжа". Тым самым урад узяў на сябе абавязкі зрабіць усё для комплекснай рэканструкцыі гістарычнай забудовы г. Нясвіжа, аднаўлення унікальных архітэктурных помнікаў, стварэння на іх базе Міжнароднага турыстычнага цэнтра. Таму я асабіста падтрымліваю ўсё тое, што сёння робіцца па ініцыятыве грамадскасці Нясвіжа і рэспублікі, райвыканкома, Міністэрства культуры і друку. Вельмі ўзрушаны весткаю, што яны стварылі Міжнародны фонд "Нясвіж" і гатовы ўнесці ў яго работу і сваю лепту.

Зразумела, усё тое, што сказана вышэй, гэта — праграма максімум, разлічаная на дзесяцігоддзі. І тут мы, шчыра скажу, спадзяемся на вашу дапамогу, шаноўныя навукоўцы, пісьменнікі, дзеячы мастацтва. Толькі гуртам, як кажуць у народзе, "талакою", гэта можна зрабіць. А падставы для будучых паспяховых спраў у нас ёсць. Фундаментам таму з'яўляюцца прынятыя па ініцыятыве ўрада Законы аб культуры, аб мовах, аб захаванні гісторыка-культурнай спадчыны.

Лічу, што сёння, выкарыстоўваючы нашу сустрэчу, мы маглі б не толькі засяродзіцца на чыста мясцовым матэрыяле, але паразважаць аб становішчы нашай культуры ў гэты адказны ў гістарычным сэнсе час. Што яшчэ трэба зрабіць, каб мы не задаваліся пытаннем, выжыве ці не выжыве культура, каб былі упэўненымі ў яе светлым заўтра.

**Клопат урада ў галіне культуры цэментуюць два асноўныя накірункі: ажыццяўленне агульнай праграмы нацыянальнага Адраджэння і стварэнне роўных правоў, умоў і магчымасцей кожнаму грамадзяніну краіны ў развіцці сваіх нацыянальных культур, іх узаемапранікнення і узаемаўзбагачэння. Асноўныя правы і гарантыі карыстання дасягненнямі культуры замацаваны і ў Асноўным законе — Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прыняцце якой наблізіла нас да пабудовы цывілізаванай дзяржавы.**

Нашы творчыя калектывы могуць упрыгожыць сцэны любой еўрапейскай краіны. Гэта тычыцца многіх калектываў: славутых Дзяржаўнага народнага хору, Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі, ансамбляў "Харошкі", "Свята", "Песняры", "Класік-авангард", духавога аркестра "Няміга", Гродзенскай капэлы пад кіраўніцтвам нашага кампазітара Бандарэнкі. Усе часцей у замежныя гастролі адпраўляюцца нашы драматычныя тэатры, усталёўваюцца творчыя сувязі рэжысёраў-пастаноўшчыкаў.

Дзяржаўны суверэнітэт, нацыянальнае адраджэнне запатрабавалі карэннага змянення міжнароднай палітыкі. Інтэграцыі ў сусветны культурны працэс спрыялі падпісанне міжнародных культурных канвенцый, міжурадавых пагадненняў аб культурным супрацоўніцтве з Балгарыяй, Славакіяй, Германіяй, Турцыяй, Румыніяй, Польшчай і іншымі краінамі. Толькі за апошні год Рэспубліка Беларусь стала паўнамоцным членам многіх аўтарытэтных міжнародных арганізацый.

Становіцца добрай традыцыяй правядзенне міжнародных мастацкіх выстаў, пленэраў, дэманстрацый работ нашых майстроў жывапісу, графікі, скульптуры ў вядомых музеях і салонах многіх краін свету. Я ведаю, што зараз у Іспаніі, на радзіме вялікага Гойі, адкрыта персанальная выстава ўчарашняга выпускніка Беларускай акадэміі мастацтваў, маладога графіка Юрыя Якавенкі.

15 чэрвеня ў Віцебску адбудзецца Першы міжнародны фестываль жывапісу імя Марка Шагала, у якім прымуць удзел не толькі нашы вядомыя майстры, але і мастакі ЗША, Францыі, Італіі, Германіі, Грэцыі і іншых краін свету. Створаныя творы будуць падараваны гораду, які актыўна аднаўляе сёння свае сусветна вядомыя мастацкія традыцыі.

Наша рэспубліка была заўсёды багатай на народныя мастацкія таленты. Дзеля захавання вядомых народных калектываў, унікальных мастацкіх промыслаў Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у лістападзе 1993 года зацверджана Праграма дзяржаўнай падтрымкі традыцыйнай культуры на 1994—1996 гады, у якой прадугледжаны дасканалыя меры па забеспячэнню адраджэння і развіцця фальклору, народных мастацкіх промыслаў і рамёстваў — ад заканадаўчай базы да падтрыхтоўкі кадраў.

Узаемаадносіны дзяржавы і культуры ў новых умовах павінны мець якасна новы характар, адпаведны патрабаванням сучаснай цывілізацыі. Інтарэсы нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва патрабуюць больш цеснага аб'яднання творчага патэнцыялу рэспублікі. Павінен быць створаны адзіны высокапрафесійны цэнтр, здольны вызначаць прыярытэты развіцця культуры, прагназіраваць і каардынаваць дзейнасць у розных галінах творчасці, прыводзіць яго у суадносіны з дасягненнямі фундаментальнай сусветнай і традыцыйнай нацыянальнай культуры. **Дзяржаўны падыход да праблем культурнага развіцця рэспублікі ставіць сёння перад намі задачу стварэння Нацыянальнай Акадэміі Мастацтваў.**

Распрацаваны меры па матэрыяльнай падтрымцы студэнтаў. Будуць павялічаны стыпендыі, знізіцца плата за пражыванне ў інтэрнатах. Найбольш таленавітыя студэнты атрымаюць надбаўкі да стыпендый, будуць накіроўвацца на вучобу ў прэстыжныя навучальныя ўстановы Еўропы і Амерыкі. Спецыяльнай пастановай урада навучэнцам рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі прызначаны стыпендыі з дзевятага па дванаццаты клас. Фонд развіцця культуры і мастацтва прызначыў пяць спецыяльных стыпендый за выдатныя дасягненні юных музыкантаў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

# СОГЛАСИЛИСЬ ПРОДОЛЖИТЬ

С участием кандидатов на пост Президента Республики Беларусь В. Ф. Кебича, А. Г. Лукашенко, В. Н. Новикова и представителя А. И. Дубко сопредседателя Аграрной партии С. Г. Шарецкого состоялось заседание Координационного комитета Народного движения Беларуси.

В связи с тем, что кандидаты согласились продолжить переговоры и углубленные консультации, Координационный комитет НДБ принял решение перенести проведение намечавшегося на 4 июня Конгресса народа Беларуси на более поздний срок до окончания консультаций кандидатов.

**(Соб. инф.)**

**Реплика**

# Кто — в народ, кто — "за бугор"

С каждым днем возрастает накал предвыборной борьбы за пост первого Президента Республики Беларусь. И хотя программы официально зарегистрированных Центризбиркомом кандидатов еще не опубликованы, уже сегодня по тому, как действуют претенденты на высший государственный пост, видно, кто из них чем дышит, на что уповает.

Одни встречаются с людьми на предприятиях и в колхозах, на стройках и в учебных заведениях, словом, идут в народ. Другие же, как, например, С. С. Шушкевич, видимо, не слишком рассчитывая на понимание со стороны своих соотечественников, с надеждой обращают взор за границу, там пытаясь найти помощь и поддержку. Только за последние полтора месяца Станислав Станиславович в компании с незабвенным Михаилом Сергеевичем Горбачевым побывал в Швеции и Южной Корее, а недавно (уже самолично) посетил Германию и Литву.

По всей видимости, вояжи "за бугор" бывшего спикера не остались незамеченными. На днях, как сообщила газета "Звязда", ему была вручена телеграмма самого Билла Клинтона, президента США, в которой тот благославляет нашего "главного демократа" на успех.

А чем черт не шутит! Вдруг и впрямь заграница поможет Станиславу Станиславовичу...

**В. КАРПОВИЧ.**

# МЕЧЕСЛАВ ГРИБ НА ГРОДНЕНЩИНЕ

2 июня во второй половине дня в Гродно прибыл Председатель Верховного Совета Республики Беларусь Мечеслав Гриб. В программе пребывания — посещение завода "Радиоприбор", акционерного общества "Гроднообувь", Литературного музея Максима Богдановича. 3 июня руководитель белорусского парламента намерен побывать в сельских районах. Ожидается, что он посетит экспериментальную базу "Руткевичи" Щучинского района и одно из местных фермерских хозяйств, встретится со своими земляками — жителями деревни Савичи Дятловского района. Намечена также его встреча с руководителями местных органов, хозяйственниками, тружениками района.

После встречи с руководством области во второй половине дня Мечеслав Гриб посетил завод "Радиоприбор". Он побывал в его цехах, осмотрел выставку продукции, которую начало выпускать предприятие в связи с конверсией производства. Это пользующиеся спросом на потребительском рынке республики телевизоры и радиоприемники, которые мало чем уступают зарубежным аналогам. Сейчас на заводе ведется подготовка к выпуску еще нескольких оригинальных моделей, опытные образцы которых были представлены на выставке.

После знакомства с предприятием глава парламента встретился с его коллективом. Он охарактеризовал нынешнее социально-экономическое положение в республике, остановился на нерешенных проблемах и задачах. Только союз с Россией, освоение ее рынков оживит экономику Беларуси, подчеркнул выступающий. Он ответил также на вопросы присутствующих.

Затем Мечеслав Гриб посетил Литературный музей Максима Богдановича, который после капитального ремонта увеличил площадь и расширил экспозицию.

Завершился первый день пребывания главы парламента в Гродненской области посещением акционерного общества (бывшей обувной фабрики) "Гроднообувь".

**Белинформ.**

